**А. Аўтарханаў:**

# Камуністычная праграма дэнацыяналізацыі нацыянальнасьцяў СССР

**(Заканчэньне з папярэдніх нумароў)**

Гэтак званы «сувэрэнітэт» саюзных рэспублікаў як быў так і застаецца фікцыяй. Аднак, існуе палажэньне няпісанага права, у сілу якога розныя рэспублікі карыстаюцца рознай ступеняй самастойнасьці ў справе ўнутранага самакіраўніцтва.

Ад пачатку 30-ых гадоў партыя адмовілася ад сваёй першапачатковай праграмы ліквідацыі «фактычнай няроўнасьці» нацыянальнасьцяў СССР ў галіне эканомікі й культуры, падпарадкаваўшы ўвесь комплекс нацыянальнага пытаньня інтарэсам новага павароту ў палітыцы партыі — ліквідацыі нэпу, прысьпешанай індустрыялізацыі і суцэльнай калектывізацыі. У той час, як суцэльная каелктывізацыя праводзілася ўсюды, індустрыялізацыя праводзілася выбарачна, выходзячы з двух матываў: эканамічнай эфэктоўнасьці капіталаўкладаў і ваенна-стратэгічнай мэтазгоднасьці выбраных раёнаў, што прывяло фактычна, да індустрыялізацыі РСФСР і ігнараваньня ня толькі эканамічных але й культурных патрэбаў нацыянальных рэспублікаў, якія знаходзяцца на ўскраінах. У выніку гэтага, эканамічная й сацыяльна-культурная дыстанцыя паміж расейскім і нерасейскімі народамі ня толькі ня зьменшылася, а, наадварот, павялічылася, стварыўшы такое палажэньне, калі мы можам гаварыць у дакладным сэнсе гэтага слова аб наяўнасьці адсталых «маларазьвітых краінаў» ўнутры самой кмуністычнай імпэрыі — гэта амаль палавіна саюзных рэспублікаў (у тым ліку і Беларусь) і ўсе гэтак званыя «аўтаномныя рэспублікі», якія зьяўляюцца аграрнымі краінамі з пасобнымі прамысловымі пунктамі з пераважна расейскім насельніцтвам.

Пэўна, КПСС будавала ў паасобных рэспубліках прамысловыя прадпрыемствы, але паводля строгага прынцыпу «спэцыялізацыі» й «каапэраваньня», што азначае ператварэньне эканомікі дадзенай рэспублікі ў спэцыялізаваны прыдатак да агульнай эканомікі мэтраполіі, або ў крыніцу сыравіны, ці дастаўшчыка паўфабрыкатаў, дэталяў да машынаў і адмысловага абсталяваньня. Агулам кажучы, ніякіх «нацыянальных эканомікаў» няма (савецкая эканамічная навука нават ня ведае такой тэрміналёгіі), ёсьць толькі спэцыялізаваныя галіны ўсесаюзнай прамысловасьці на тэрыторыях саюзных рэспублікаў. Увесь прыбытак ад прамысловасьці і падатак з абароту саюзных рэспублікаў ідзе ў Маскву.

КПСС праводзіць новы курс — «інтэрнацыяналізацыю» (замест ранейшай «карэнізацыі») эканомікі нацыянальных рэспублікаў, у выніку чаго ўжо цяпер ў бальшыні саюзных рэспублікаў і ўва ўсіх аўтанамных рэспубліках насельніцтва падзяляецца на расейскія гарады і нацыянальныя вёскі. «Інтэрнацыяналізацыя» праводзіцца мэтадам масавай, арганізаванай і не заўсёды дабраахвотнай міграцыі Расейцаў, Украінцаў, а таксама й Беларусаў у раёны новых прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Найбліжэйшая палітычна-практычная мэта новага курсу «інтэрнацыяналізацыі» нацыянальных рэспублікаў — гэта шчыльнае акружэньне мясцовага нацыянальнага насельніцтва чужаземнай клясай імпэрскіх каляністых, якія ў выпадку паважнага савецкага каляніяльнага крызісу апынуцца ўжо ў сілу свайго палажэньня й паходжаньня на баку імпэрскага ўраду.

Далёкасяжная палітычная мэта «інтэрнацыяналізацыі» нацыянальных рэспублікаў — гэта іхная дэнацыяналізацыя, ператвараючы паступова нацыянальную бальшыню карэннага насельніцтва ў нацыянальную мяншыню, каб падрыхтаваць умовы для перагляду у тэй ці іншай форме статусу самых нацыянальных рэспублікаў. Партыя ўжо дамагалася дэнацыяналізацыі дзьвюх саюзных і 12-ці аўтономных рэспублікаў, у якіх карэннае насельніцтва ўжо складае мяншыню, так што як нацыянальныя рэспублікі яны існуюць толькі паводля назвы.

Тая самая палітыка «інтэрнацыяналізацыі» праводзіцца і ў галіне культуры. Формула «культура нацыянальная паводля формы й сацыялістычнага паводля зьместу» не афіцыйна, але фактычна пераглядаецца ў тым сэнсе, што нацыянальная форма (мова, звычаі, традыцыі) прызнаецца засуджанай на зьнікненьне ў інтарэсах тэй-жа «інтэрнацыяналізацыі», так што практычна праводзіцца палітыка «культуры інтэрнацыянальнай паводля формы, камуністычнай паводля зьместу», дзе «інтэрнацыяналізм» зьяўляецца псэўданімам русыфікацыі.

Ёсьць шмат сымптомаў, якія гавораць аб тым, што палітыка дэнацыяналізацыі сустракае супраціў як сярод Расейцаў у выглядзе расейскага патрыятызму, што афіцыйна **не** асуджаецца, так і сярод нерасейскіх народаў у выглядзе росту мясцовага патрыятызму, што ня **толькі** асуджаецца, але й перасьледваецца. Гэтым тлумачыцца сталае падкрэсьліваньне як у праграме партыі, так і ў ейных інтэрпрэтацыях ў партыйнае прэсе, неабходнасьці ўзмацненьня змаганьня супраць усіх відаў мясцовага нацыяналізму, у той час як аб «вялікадзяржаўным шавінізьме» нідзе ні слова не гаворыцца.

Вядучай і найбольш характэрнай рысай ў сусьветнай палітыцы пасьляваеннага пэрыяду сталіся два параленьныя працэсы, але ў супрацьлежных кірунках — у зоне заходняга імпэрыялізму адбыўся канчальны развал вялікіх каляніяльных імпэрыяў, вынікам чаго было стварэньне дзесяткаў маладых свабодных і незалежных дзяржаваў у Азіі й Афрыцы, у той час як у зоне камуністычнага імпэрыялізму ня толькі захавалася але й пашырылася найвялікшая з каляніяльных імпэрыя новага тыпу — гэта эўразыйская савецкая імпэрыя.

Надыходзіць час, калі лідары савецкай імпэрыі адчуюць, як гэта небасьпечна быць адзінай імпэрыяй ў сьвеце бяз імпэрыяў і каленіяў. Ідэі нацыянальнага вызваленьня, якія савецкія камуністыя падтрымоўвалі і распальвалі ў тылу заходніх каляніяльных дзяржаваў, пачынаюць мець сваё рэха ўжо унутры савецкай імпэрыі, ператвараючы савецкае нацыянальнае пытаньне ў паважную савецкую **нацыянальную** праблему.

---

# Новыя дасягненьні ЗША ў космасе

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

Сустрэча ў космасе й злучэньне не ўваходзіць у праграму наступнага касьмічнага палёту, які заплянаваны на верасень гэтага году. Гэты палёт касьмічнай станцыі «Джэмінай» павінен трываць сем або восем дзён. У часе палёту з касьмічнай станцыі будзе катапультаваны кантэйнар, пасьля чаго касманаўты пачарзе будуць выходзіць з кабіны карабля і рабіць спробы прыблізіцца да кантэйнара.

Паводля словаў Ўэбба, апошні палёт касьмічнага карабля «Джэмінай-4» дае паважныя падставы ўважаць, што цяпер ёсьць магчымасьць рабіць даўжэйшыя палёты. Апрача таго, ён паказаў, што чалавек можа манэўраваць у прасторы, каб рабіць рамонт, агляд, зьмену экіпажу і праводзіць выратавальныя апэрацыі.

---

# 16-ты Зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады

Зьезд адбыўся 5 чэрвеня ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронто. Адчыніў Зьезд і прывітаў дэлегатаў і сяброў яго старшыня ЗБК д-р Барыс Рагуля. У прэзыдыюм Зьезду былі выбраны: на старшыню сп. К. Акула, на сэкратара сп. А. Монід і сп. А. Протас як сябра.

Зьезд правёў вялікую работу, разгледзіўшы й прадыскутаваўшы 10 пунктаў парадку дня. Былі заслуханы даклады Галоўнай Управы, аддзелаў ЗБК й Нагляднай Рады, на прапазыцыю якой было ўдзелена абсалюторыюм з падзякай уступаючай Галоўнай Управе.

У кіраўнічыя й кантрольныя органы ЗБК былі выбраны: у Галоўную Ўправу мгр. А. Грыцук на Старшыню, д-р Раіса Жук Грышкевіч на сакратара й сп. А. Монід на скарбніка;

у Наглядную Раду д-р Б. Рагуля і сп .сп. А. Маркевіч і К. Акула;

у Сяброўскі Суд сп. сп. А. Протас, К. Акула й Б. Лішчонак.

Зьезд пастанавіў прыняць удзел у сьвяткаваньні сотнай гадавіны канадзкай дзяржаўнасьці, якая прыпадае на 1967 год, дзеля чаго была пакліканa адумысловая камісія ў складзе: д-р Раіса Жук-Грышкевіч, мгр. А. Грыцук і д-р В. Жук-Грышкевіч.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**Ж.**

---

# Канцэрт паняволеных народаў у Еркшыры

**(Ангельшчына)**

Сёлета чарговы канцэрт, ладжаны Камітэтам Паняволеных Народаў у Ёркшыры, у які ўваходзяць Беларусы, Эстонцы, Латышы, Летувісы, Вугорцы, Палякі і Ўкраінцы, што жывуць у Брадфардзе й ваколіцах, адбыўся ў сыботу 19 чэрвеня.

Вялізарная заля «Вікторыя Гол» у Ёркшыры, удэакраваная нацыянальнымі сьцятамі паняволеных народаў, была перапоўненая народам. Перад канцэртам з прамовай выступіў старшыня Камітэту Паняволеных Народаў сп. Кромбахс (Латыш). У сваёй прамове ён адзначыў, што ў часы, калі амаль усе народы Азіі, Афрыкі і Лацінскае Амэрыкі, бальшыня якіх раней ня мела свае дзяржаўнасьці, атрымалі або атрымліваюць сваю незалежнасьць, дзяржаўныя народы сярэдняй і Ўсходняй Эўропы далей прыгнятаюцца расейскім імпэрыялістычным камунізмам. Таму наша мэта ў Камітэце Паняволеных Народаў, — гаварыў прамоўца, — яднацца і разам змагацца супраць супольнага ворага нашых народаў. Хоць мовы народаў, прадстаўнікі якіх уваходзяць у Камітэт, розныя, але песьні й танцы дастаткова зразумелыя ўсім, каб быць мастом для духовай еднасьці, — закончыў сваю прамову старшыня.

У канцэрце з народнымі песьнямі й танцамі выступілі мясцовыя мастацкія сілы ўсіх нацыянальных групаў.

Прысутнічала на канцэрце шмат ангельскіх гасьцей — прадстаўнікоў мясцовых уладаў і ангельскай прэсы, якія, між іншага, шырока пісалі пра канцэрт у ангельскіх газэтах.

Пасьля канцэрту адбылося прыняцьце, на якім была нагода дакладней пазнаёміць гасьцей з праблемамі паняволеных народаў.

**Янка Крушына**

---


**УВАГА!** **УВАГА!**

У Выдавецтве «Бацькаўшчына» выйшлі з друку асобнай кніжкай успаміны *Пётры Сыча* пра баі пад Монтэ-Касыно

**СЬМЕРЦЬ І САЛАЎІ**

Успаміны гэтыя друкаваліся раней у нашай газэце, але раптоўная сьмерць аўтара не дазволіла яму іх закончыць. Таму заканчэньне, а таксама Прадмову да кніжкі, напісаў д-р Жук-Грышкевіч.

Выданьне сфінансаванае ўдавой аўтара, спадарыняй *Эльзай Сыч*. Зьвяртаемся з заклікам да былых сяброў аўтара й да ўсяго беларускага грамадзтва прысылаць замоўленьні на кнігу, каб гэтым спрычыніцца хоць да частковага пакрыцьця коштаў выданьня.

Замоўленьні просім прысылаць на адрас Выдавецтва «Бацькаўшчыны».

Кніжка каштуе паўтара даляра ці раўнавартасьць гэтай сумы ў малюце іншых краінаў. Грошы слаць на адрас:

Elisabeth Sycz, Konto Nr. 636492, Deutsche Bank, 8 München, Deutschland.


---

# Новыя залежы нафты й газу на Беларусі

Як паведаміла радыё Масква, на Беларусі адкрытае новае, ужо другое, месцанароджаньне нафты й газу. Магутны нафтавы й газавы фантан выбухнуў на Васілісшкім участку з глыбіны тры тысячы 100 мэтраў. Якасьць нафты, як сьцьвердзілі спэцыялістыя, выдатная. Вядуцца пашукі новых нафтавых залежаў у раёнах Калінкавічы і Жыткавічы.

Аднак пацьверджаньня гэтай весткі ў савецкай прэсе знайсьці пакуль-што не ўдалося.

---

падняла ўгору швабру і стала пад дзьвярыма з такім разьлікам, каб, калі яны адчыняцца на хату, яна засталася за імі незаўважанай тым, хто ўвойдзе ў хату. Усе зразумелі яе намер, усьміхнуліся і голасна крыкнулі:

— Уваходзьце, калі ласка!

Дзьверы пачалі павольна адчыняцца, і Валя нарыхтавалася з швабрай. «Вось зараз некага шлёпне. А можа гэта Валя?».

У дзьвярох паказалася, аднак, незнаёмая жанчына, і Дзічкоўская, сумеўшыся, хуценька апусьціла швабру, адскочыўшы ад дзьвярэй.

— Добры вечар у хату, галубкі! — лагодна прывіталася нейкая бабулька. — Можна ў вас пабыць хвіліначку? Я вам не перашкоджу!

А вы хто такія, бабка? — запыталася Дзічкоўская. — Праходзьце, сядайце! — і яна паставіла ёй крэсла каля стала.

Бабулька асьцярожна, каб не насьлядзіць, падыйшла да стала і села на крэсла, паставіўшы на падлогу свой клумак. Усе зьлезьлі з сваіх ложкаў і паселі за сталом, разглядаючы незнаёмую. Усе чакалі, што яна скажа. Бабулька, абвёўшы ўсіх сваім маладым паглядам, загаварыла:

— Я гэта прыехала сюды з Самахвалавічаў. Я маці Міколы Саланевіча, можа ведаеце?

Саланевіча ўсе ведалі тут, як былога студэнта. Насьцярожыліся і слухалі далей бабульку ў паношаным паліто, такіхжа ботах і ў сукняным платку чырвонага колеру.

І што-ж вы хочаце? — дапытвала далей бабульку Дзічкоўская, падсядаючы да яе ўсё бліжэй і заглядаючы ёй проста ў самыя вочы.

— Казалі мне, што ў вас мусіць быць тут такая дзяўчына Валя Камоцкая.

— Ну, ёсьць, а што? — хітра вяла сьледства Дзічкоўская.

— А каторая яна тут? — ледзь усьміхнулася бабулька. — Бачаце, колькі вас тут! І ўсе разам жывяцё згодна?

— Ня скажам, каторая. Адгадайце самі, — перайшло ўжо на жарт Роза Шкляр.

Дзічкоўская, раптам пасур'ёзніўшы, перабіла Шкляр:

— Няма ў нас болей Валі Камоцкай, бабка! Была, але цяпер няма, і ня пытайце пра яе!

— А што, і зь ёю нешта сталася нядобраўе?.. Я нічога... Я толькі хацела... Можа яна ведае што пра майго Міколу... Сядзіць ён, можа-ж чулі?

На бабулькіны вочы набеглі сьлёзы. Дзяўчаты чулі і раней, што Саланевіч арыштаваны, але чуткі так і засталіся чуткамі. Чамусьці верылі, што як паехаў ён настаўнічаць, дык і настаўнічае. А цяпер сама маці гаворыць пра гэта. Незразумела было толькі, што-ж супольнага паміж Саланевічам і Камоцкай.

Бабулька выцерла сьлёзы рукавом:

— Ужо цэлы год нічога ня піша Мікола. Можа ўжо, крый Божа, яго няма і ў жывых. Аж тут дачулася гэта я во, што Мікола напісаў пісьмо Корзюку Раману, кавалеру гэтай... як яе... дзяўчыны... Камоцкай. Я была ўжо на хвацеры Корзюка, дык яго няма, а гаспадыня яго паслала мяне... прывяла мяне сюды і кінула. Кажа, што можа яна, гэтая яго дзяўчына што-кольвек ведае. Ён зь ёю любіцца ці што, казала. Дык можа як папала ёй пісьмо майго Міколы.

— А як-жа вы ведаеце, што ваш сын напісаў пісьмо Корзюку?

— Хто вам сказаў? — уставіла й сваё слова Лагоўская, папраўіўшы пэнснэ на носе.

— А гэтага ўжо, мае даражэнькія, я вам не магу сказаць, хто. Вам-жа ўсё роўна, хто! Даруйце мне, старой і дурной! Мы ўжо столькі пыталіся людзей, што здурнець можна. Пісалі і ў лягер той, дзе ён сядзіць, ды ня шлюць нічога адтуль.

— А за што яго пасадзілі?

— Хто-ж яго ведае, дзеткі. Ён-жа тут быў з вамі, дык можа вы й ведаеце, за што. Сказалі-б мне можа? Я нікому не скажу... Ня можа быць, каб наш Мікола ў чым правініўся. Не такі ён. Яблыка чужога не сарваў.

— За яблыкі, бабка, не бяруць.

— Хто-ж яго ведае. А толькі мы з сваім старым занудзіліся чыста. Як толькі ляжам спаць, дык і сьнім абодвы свайго Міколу. Пасылала я свайго старога і ў кэвэдэ — ня хоча. Кажа, што ўсё роўна нічога ня скажуць, пыталіся ўжо такія, як мы! Выправілася во сама. Кабеце, кажуць, лацьвей. Дык і мяне ня пушчаў, стары мой... не хацеў, каб ішла. Але якжа я не пайду? І на той сьвет пайшла-б... Дык нічога ня скажаце, мае даражэнькія, пра майго Міколу? — старая паднялася з крэсла і ўзяла сваю клумку з падлогі.

— Нічога ня ведаем, бабка. І рады-б, але нічым дапамагчы вам ня можам, — адказала за ўсіх Дзічкоўская. — Сядайце во, мы пачастуем вас гарбатай.

— Не, дзякую, дзеткі! Пайду ўжо!

— Дзе-ж вы будзеце начаваць? Позна ўжо!

— На вакзале.

— Дзяўчаты, паложым яе ў нас! — азвалася Ларыса, што сядзела ўвесь час моўчкі. — Ложак гуляе.

— Як табе ня сорамна, Ларыса! Яшчэ не пасьпеў прастыць ложак, а ты ўжо ложыш на яго людзей, — запярэчыла Дзічкоўская.

— Ну, як хочаце, — прымірылася Ларыса.

Старая, ветліва падзякаваўшы за ўсё, і за тое, што маладыя не пагардзілі ёю, выйшла з манастыра.

— А я дык нешта ня веру ёй! — пасьпяшалася выказаць сваю думку пра бабку Шкляр.

— А што-ж там ня верыць? — пакрыўдзілася Дзічкоўская.

— Не разумею я ўсяго гэтага! — не здавалася Шкляр.

— І разумець няма чаго! Ці хіба ў цябе маці няма?

— Мяне дзівіць толькі адно, адкуль у нашай Валечкі такія сувязі? — усё яшчэ зьмяншальным імём называла Лагоўская Валю.

Перад сном Ларыса зьняла з Валінага ложка пакрывала, каб яно не бялелася ноччу, — Ларыса баялася гэтага пустога ложку побач, ён будзіў у ёй жаласьлівыя пачуцьці і містычны страх.

15.

Назаўтра дзяўчаты з манастыра выйшлі на заняткі ўсе разам, як па камандзе, чаго ніколі ня было раней. Звычайна, адныя зь іх любілі прыходзіць за паўгадзіны да пачатку лекцыяў, іншыя, наадварот, выседжвалі да самага званка, які быў добра чуцён з Галоўнага Корпусу, і служыў, такім чынам, найбольш надзейным гадзіньнікам для студэнтак. Сягоньня-ж нейкі нязвычайны настрой гнаў іх усіх раней. Пілі гарбату адначасна, сьпяшаючыся, моўчкі, быццам кажны баяўся выйсьці з пакою апошнім. Гледзячы на іх збоку, можна было падумаць, што яны злуюцца адна на адну, толькі пакуль ня хочуць гэтага выказваць і праяўляць. Цяжка было-б вытлумачыць такія іхныя паводзіны чым-небудзь іншым, як толькі фактам адсутнасьці Валі. Гэтая адсутнасьць вычувалася найболей цяпер, калі жыхаркі манастыру не далічваліся сяброўкі, страта была такой вымоўнай і відавочнай, што не дазваляла навет гаварыць аб ёй. Звычайна, раніца ў манастыры —

# Пра людзкую годнасьць

Дыктатура ня можа існаваць без абагаўленьня тыранаў і створанай імі сыстэмы ўлады. Так было ўсюды і заўсёды, дзе грамадзтва было падпарадкаванае волі аднае асобы ці нязначнай меншыні. Наглядны доказ гэтага дае нам сучаснае палажэньне ў Савецкім Саюзе. Памёр жыдасны дыктатар Сталін, спадкаемцы раскрытыкавалі культ ягонае асобы, але культ, як такі, далей падтрымоўваецца зь няслабнучай энэргіяй. Гэта — культ партыі, культ Леніна. Усе тыя якасьці «мудрасьці» й «непамыльнасьці», якія пры жыцьці прыпісваў сабе Сталін, цяпер прыпісваюць Леніну, «ленінскай партыі».

У гэтым годзе абагаўленьне Леніна зноў дасягнула вяршыні ў сувязі з угодкамі ягонага народжаньня. У гэтую акцыю была ўпрэжаная ня толькі партыйная публіцыстыка, але й савецкая мастацкая літаратура. Хваласьпеўныя оды заснавальніку савецкай сыстэмы стваралі з гэтай нагоды ня толькі ведамыя падхалімы тыраніі, але й тыя, што ў свой час былі ахвярамі гэтай тыранічнай сыстэмы. Вось адзін прыклад.

Рэпрэсыяваны пры Сталіне, а пазьней рэгабілітаваны беларускі паэт Сяргей Грахоўскі ў вершы «Ісьціна», зьмешчаным у газэце «Літаратура і Мастацтва» з 2-га сакавіка, пісаў:

«Я ўсё калісьці мудрасьцю лічыў,
Хацеў дайсьці да самае асновы,
Хацеў знайсьці да ісьціны ключы,
Але знаходзіў формулы і словы.
А самы мудры пасьміхаўся ў вус,
Вучыў і павучаў, і быў прарокам,
Настаўнікам філёзафаў і муз.
Адзіным і не адзінокім.
Ён часам сонца засланіць умеў,
Прысвоіць бліскавіцы і праменьні,
Мінула ўсё, і кожны зразумеў:
Было ўсяго няпоўнае зацьменьне.
Для кожнага цяпер не навіна,
Што ёсьць на сьвеце ісьціна адна —
Ленін».

Грахоўскі, расчараваўшыся ў «вусатым» Сталіне, знайшоў урэшце «ісьціну» ў Леніне. Можна было-б спрачацца над тым, наколькі шчыра ён гэта гаворыць. Але тут нам ходзіць не пра гэта. Мы тут спынімся коратка над тым, наколькі Леніна можна запраўды параўноўваць зь «ісьцінай» — праўдай, называць яго нейкім звышчалавекам.

Перш за ўсё, як у свой час Сталіна, гэтак цяпер Леніна «вялікім чалавекам» зрабіла кампартыя, каб пры дапамозе гэтага штучна створанага аўтарытэту забясьпечыць сабе непадзельнае панаваньне. Ленін быў больш-менш звычайным чалавекам і атоесамліваць яго з «ісьцінай» зьяўляецца простай недарэчнасьцяй.

У скабніцу людзкое думкі Ленін ня ўнёс амаль нічога новага. Гэтак званыя ягоныя «філязофскія творы» ёсьць зазапазычаньнем, пры гэтым падхварбаваным рознымі крыклівымі супярэчнасьцямі й разьведзеным у добрай долі дэмагогіі. Калі ходзіць пра палітычную дзейнасьць Леніна, пра ягоныя канцэпцыі й тэорыі, а таксама практыку ў перабудове грамадзка-дзяржаўнага ладу, дык згаданая тут ягоная «чалавечая звычайнасьць» можа выступаць толькі ў адмоўным сьвятле. Зьвернемся да фактаў.

З пачатку свае палітычнае дзейнасьці й ідэялягічных практыкаваньняў уся ўвага Леніна была зьвярнута не на перабудову грамадзтва на больш-менш справядлівых сацыяльных і палітычных асновах, але выключна на захоп улады. У гэтым пляне першымі ягонымі клопатамі было стварэньне партыі, пры гэтым партыі не масавага характару, але невялікае групы фаховых рэвалюцыянэраў-інтэлігентаў, аб'еднаных жалезнай дысцыплінай і падпарадкаваных ідэялягічна самому-ж Леніну. Той, хто крыху дбаў пра лёс народу й у сувязі з гэтым не апраўдваў ні такога змоўнага шляху ў рэвалюцыйным змаганьні, ні такой казармавай дысцыпліны з замарожанай ідэялёгіяй, ні дыктатарскіх замашак Леніна, аўтаматычна апынаўся або за рамкамі гэтае партыі ,або прылічаўся да лягеру гэтак званага «дробна-буржуазнага» элемэнту. Не ўваходзячы ў падрабязнасьці, у тым ліку і ў гісторыю ўзьнікненьня гэтак званага «меншавізму», для ілюстрацыі гэтае ненармальнасьці, праўдзівей піратнае акцыі, дастаткова прыгадаць падзеі 1917 году, калі Ленін, перапоўнены жаданьнем захапіць уладу ў свае рукі, быў гатовы ажыцьцявіць разрыў з сваімі найбліжэйшымі супрацоўнікамі ды з дапамогай уласьцівай яму дэмагогіі зьвярнуцца проста па падтрымку расхваляванай пецярбургскай працоўнай масы. А зь якой хітрасьцяй выкарыстаныя Ленінам «левыя» сацыял-рэвалюцыянэры. Каб замацавацца пры толькі-што захопленай уладзе, Ленін прапануе сацыял-рэвалюцыянэрам сваё супрацоўніцтва ўключна з прыняцьцем іхнае аграрнае праграмы й даручэньнем ім некаторых камісарыятаў у новым савецкім урадзе. Потым-жа, калі бальшавікі пачуліся ў сіле, ён распраўляецца зь імі на ўзор ранейшае расправы зь меншавікамі. Пры авантурызьме падобны паступак можа лічыцца дасканалай тактыкай, аднак ён ўсётакі нягодны ў змаганьні за палепшаньне народнага дабрабыту. Нарэшце, вымоўнымі зьяўляюцца падзеі 1920-1922 гадоў. Як ведама, наіўна паверыўшы ў «вялікія магчымасьці» новае савецкае сыстэмы, шматлікія сябры партыі пачалі дамагацца дэмілітарызацыі й дэмакратызацыі самое партыі, ейнага папаўненьня працоўным і сялянскім элемэнтма, свабоды думкі, прапановаў і дыскусіяў у партыі, перадачы фабрыкаў і заводаў у рукі самых працоўных ці у рукі іхных прафсаюзаў, вызваленьня гэтых прафсаюзаў ад партыйнае апекі й т. д. І як-жа паставіўся да гэтых жыцьцёвых патрабаваньняў Ленін? У вадказ на гэтыя дамаганьні ён загадвае правесьці адну зь першых вялікіх чыстак партыйных шэрагаў, каб гэтым самым «правучыць» прыхільнікаў свабоды, дэмакратыі й сацыяльнага прагрэсу ды натлядна засьветчыць, што партыя, інтарэсы народу й дзяржавы — гэта «прыватная ўласнасьць» Леніна.

Бясспрэчна, у ходзе змаганьня за ўладу Ленін абяцаў шмат добрага, навет зашмат. На словах ён перадаваў фабрыкі й заводы працоўным, зямлю — сялянству, паўніню ўсяе ўлады — Саветам. Абяцаў таксама свабоду слова й прэсы, свабоду сумленьня, свабоду партыяў і грамадзка-культурных арганізацыяй, нацыянальную свабоду, правасудзьдзе ды, урэшце, згаджаўся на скліканьне Устаноўчага кангрэсу й г. д. Аднак усё гэта выявілася дэмагогіяй, якая хутка замянілася тэрорам і зьдзекам над народамі.

Для прыкладу возьмем справу Саветаў. Перад прыходам да ўлады Ленін дэмагічна дамагаўся перадачы ўсяе паўніні ўлады Саветам. Тым-жа часам за сьпіной гэтых Саветаў ён падрыхтоўвае ведамы кастрычніцкі пераварот ды ставіць II Зьезд Саветаў ўжо перад дакананым фактам. Пазьней ён зводзіць гэтыя Саветы, уключна зь іхнымі «заканадаўчымі» зьездамі й «выканаўчым» ЦВК да звычайнае фікцыі, тэатральнае занавесы, за якой пачынае маніпуляваць ягоная асабістая рука ці рука створанае ім партыі. Падобныя зьмены наступаюць і ўва ўсіх іншых дзялянках. Адным словам, як праўдзіва й неаднаразова заўважаў Пляханаў, Ленін быў тым майстрам, які быў здольны «аднэй рукой даваць шчодра ўсё, а другой ўсё гэта зноў забіраць назад».

Дарэчы, што можа мець супольнага зь «ісьцінай» ягоная выключная стаўка на сыстэму аднапартыйнасьці, на жалезную дысцыпліну й асабістую дыктатуру ў гэтай аднапартыйнай сыстэме кіраўніцтва? У сваёй сутнасьці такая пастаноўка справы зьяўляецца антынароднай, нізкім эгаізмам. Ня можна таксама бачыць гэтую «ісьціну» ў ягоных абстрактна-архітэктурных канструкцыях будучыні людзкога грамадзтва й асабліва ў практычных кроках, якія ён пачынаў рабіць у гэтым кірунку. Дабразычлівы чалавек ня можа разглядаць грамадзтва як нейкі ляпок гліны, зь якога можна рабіць пажаданыя рэчы. Калі нехта запраўды праняўся ідэяй палепшаньня дабрабыту народу, ён ня можа ажыцьцяўляць гэтую ідэю гвалтам, рознымі чорнымі шляхамі і, галоўнае, у некарысьць як самога народу, так і гэтае ідэі. Ленін-жа дзейнічаў якраз такім спосабам. Прыгадаем хоць-бы славутыя «камуны», у якія ў 1918-1921 гадах заганяў ён толькі-што ім «надзеленае зямлёй» сялянства. Прыгадаем таксама, як ён загадваў «расстрэльваць для прыкладу» тых працоўных, што дамагаліся палепшаньня свайго матар'яльнага стану або «парушалі працоўную дысцыпліну»!

Вось-жа «ісьціну» нельга зьмешваць зь нізкасьцяй, ня выпадае ацэньваць яе, кіруючыся толькі партыйнымі інтарэсамі, бо «ісьціна» — надпартыйная й непадзельная. А галоўнае, — ня выпадае так танна ацэньваць і прадаваць чалавечую годнасьць!

**П. В.**

## Угодкі незалежнасьці народаў Каўказу

**(Заканчэньне з 4-ай бач.)**

сваіх дарогах. Але армянскі народ быў поўны рашучасьці жыць свабодна, як незалежная нацыя. У травені 1918 году армяне ўзьнялі усенароднае паўстаньне. Змаганьне было настолькі гераічнае, што нават Турэччына была змушаная прызнаць дзяржаўную незалежнасьць Армэніі. 28-га травеня 1918 году была абвешчаная Армянская Дэмакратычная Рэспубліка.

Праз год быў абвешчаны прынцып дзяржаўнасьці ўсёй Армэніі, ідэя Армэніі свабоднай, незалежнай і аб'еднанай.

Армянская Рэспубліка праіснавала два з палавінай гады. За гэты кароткі час аднавілася і ўмацавалася армянская нацыянальная джаржаўнасьць. Незалежнасьць Армэніі была прызнаная міжнароднымі ўмовамі. На міжнародных канфэрэнцыях афіцыйныя прадстаўнікі маладой дзяржавы абаранялі інтарэсы свайго народу. З розных краінаў сьвету Армяне групамі вярталіся на бацькаўшчыну, каб абараць краіну і адбудоўваць эканамічнае й культурнае жыцьцё. Аднак на гарызонце зноў зьявіліся чорныя хмары. У кастрычніку 1920 году турэцкае войска пачало новы наступ на Рэспубліку Армэніі, а з боку ўжо саветызаванага Азэрбайджану пачала пагражаць савецкая Чырвоная армія. Адрэзаны ад сьвету, армянскі народ трапіў у трагічнае палажэньне. Гэтыя абставіны спрычыніліся да далучэньня Армэніі да новай расейскай імпэрыі, гэтым разам — бальшавіцкай.

## Яго Эксцэленцыя біскуп Часлаў Сіповіч у Таронто

13 чэрвеня г. г. адведаў Беларусаў каталікоў з Таронта й ваколіцаў духоўны апякун беларусаў каталікоў на эміграцыі Яго Эксцэленцыя біскуп Часлаў Сіповіч. Дэлегацыя беларусаў каталікоў спаткала яго й айца Урбановіча на лётнішчы яшчэ ў суботу 12 чэрвеня.

У наступны дзень, у нядзелю, Яго Эксцэленцыя разам з айцом Урбановічам адслужылі сьвятую імшу ў літоўскім касьцеле, на якую прышлі ня толькі Беларусы такалікі, але й шмат Беларусаў праваслаўных. У часе багаслужбы Уладыка Часлаў Сіповіч сказаў прыгожае й глыбокае па зьместу казаньне на словы з сьвятой эвангеліі «...ідзіце-ж і навучайце народы...», з якога вынікала, што ўжо тады, калі былі сказаны гэтыя сьвятыя словы, пад словам «народы» разумеліся ўсе народы й іх мовы, а значыць і мы — Беларусы.

Пасьля багаслужбы сьвятары й вернікі сышліся ў прыкасьцельнай залі пры каве, каб пазнаёміцца ўзаемна й пагутарыць. Уладыка гутарыў і з дзяцьмі, і з дарослымі, якія дзякавалі за адведзіны, багаслужбу й казаньне. Але зьбліжалася 3-я гадзіна, на якую Галоўная Управа ЗБК запрасіла на абед у Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр дастойных гасьцей і ўсіх прысутных, таму прыемныя гутаркі трэба было канчаць.

У залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру спаткалі дастойных гасьцей з хлебам і сольлю сэкратар Галоўнай Управы ЗБК д-р Раіса Жук-Грышкевіч і старшыня Тарантонскага Аддзелу ЗБК сп. В. Касьцюкевіч ды запрасілі іх і ўсіх прысутных за застаўленыя ежай сталы.

Бяседа была распачата малітвай, якую сказаў Уладыка Часлаў Сіповіч. Віталі дастойных гасьцей кароткімі прамовамі д-р В. Жук-Грышкевіч, гаспадар дому сп. М. Ганько й настаяцель царквы сьв. Кірылы Тураўскага айцец пратаерэй М. Мацукевіч.

Уладыка Часлаў Сіповіч падзякаваў за прыняцьце й гасьціннасьць, а пазьней, на просьбу прысутных, зрабіў даклад аб беларускім жыцьці ў Эўропе й аб Экумэнічным Саборы. Гаварыў 55 мінут, але даклады былі настолькі цікавыя, што бяседнікі слухалі дакладчыка ўвесь час з напружаньнем, не здраджаючы ані каліва змучаньня. Пры канцы дакладчык запрапанаваў адсьпяваць беларускі нацыянальны гімн, чым і была закончана бяседа.

Візыта Уладыкі Часлава Сіповіча пакінула вялікае ўражаньне на ўсіх, з кім толькі ён сутыкнуўся. Людзі пачулі шмат чаго новага й цікавага, адсьвяжыліся духова. Часьцей-бы такія візыты! На вялікі жаль візыта была кароткая й прайшла вельмі хутка. На другі дзень нашы высокадастойныя госьці пакінулі нас. Хай ім Бог заплаціць за іх высілкі й усё тое высокавартаснае, што пакінулі нам у нашых душах.

**Ж.**

## Зварот

Галоўная Рада Беларуска-Амэрыканскага Жаноцкага Т-ва паставіла сабе заданьне на сёлетні год арганізаваць уставічную выстаўку народнага мастацтва, каб прыпомніць сваім і пазнаёміць чужых з культурным скарбам нашага народу.

Выстаўка будзе абыймаць усе галіны народнага мастацтва: адзежу, тканіны, вышыўкі, кераміку, абразы і г. д. Яна будзе паказвацца там, дзе будзе найболей карысная. Іншыя беларускія асяродкі будуць магчы яе пазычаць, калі будзе патрэба.

Гэтым ветла зварачаемся з просьбай памагчы нам пры ўжыцьцяўленьні нашага пляну. Для выстаўкі патрэбныя вышэйапісаныя экспанаты. Рэчы будуць маемасьцяй Бел.-Амэр. Жаноцкага Т-ва. Загадзя дзякуем за кажную памогу і просім зварачацца ў гэтай справе да Сп. Веры Бартуль (193-05 Keno Ave. Hollisvood NY 11423. Phone: HO 4-1843), або да Марыі Станкевіч (6 Vandervoort Place, Brooklyn, N.Y. 11237. Phone: EV 2-4160).

---

— Куды-ж вы цяпер ідзяце?

— Шукаю Гінзбурга. Мой Мікола жыў зь ім разам у тырнаці і можа што ведае ён. Гэта мне падказалі добрыя людзі схадзіць да яго.

— Ну, як знаеце, цётка! Пашукайце сабе Гінзбурга, але й Гінзбург, здаецца, ці ня згінуў ужо! — з апошнімі словамі Дзічкоўская зьвярнулася не да бабкі, а да Розы Шкляр, якая добра ведала Гінзбурга, студэнта з гістарычнага адзьдзяленьня. Шкляр, у знак пацьвярджэньня, кіўнула галавой, не сказаўшы ніводнага слова. Дзяўчаты памахалі бабцы, і яна пасунулася далей. Жанчына з распранальні доўга ня спушчала зь яе вачэй, але не затрымлівала яе, як калісьці Корзюка, і ня чыніла ёй ніякіх прыкрасьцяй, хоць на нагах у бабкі было ня меней ста пудоў гразі.

На вялікае зьдзіўленьне дзяўчат, загад аб выключэньні Корзюка й Камоцкай быў ужо зьняты з дошкі. Што-б гэта значыла? Павісеў колькі гадзін і ўжо зьнялі. Ранейшыя такія загады віселі па тыдню і болей.

З такой загадкай дзяўчаты пераступілі парог свайго манастыра.

16.

У гэным часе дырэктар інстытуту Мэльцар меў у сябе ў габінэце важную нараду з сакратаром партарганізацыі. На гэтую нараду нікога больш не запрашалі — яна была срога сакрэтнай. Сваю сакратарку Мэльцар адаслаў да хаты, хоць яна і была ўтаямнічанай у справы канцыялярыі. Выходзячы, як-бы абражаная, яна зьдзіўлена паглядзела на дырэктара, якому й самому было нязручна за свой учынак. Такі ягоны ўчынак тлумачыўся тым, што на нарадзе стаўлялася пытаньне аб ім самім. Паставіў-жа яго сам сакратар партарганізацыі інстытуту. Вытварылася дзіўная сытуацыя: у сваім собскім габінэце дырэктар інстытуту быў як-бы падсудным чалавекам. Няхайбы-ж сакратар партарганізацыі выклікаў дырэктара ў свой габінэт! Дык не-ж: фармальна дырэктар вышэй за сакратара, і таму ўсё мусіць адбывацца ў дырэктара, хоць-бы гэнаму дырэктару і галаву адразалі. На нарадзе ў сваім габінэце дырэктар ня чуўся гаспадаром і з страхам чакаў, якую пазыцыю зойме ў ягонай справе сакратар, як фактычна большая сіла ў інстытуце. А справа тая стаяла гэтак, што дырэктару быць, або ня быць. Дырэктар даўно ўжо і не аднойчы абвінавачваўся ў апартунізме, «мякка кажучы», як дадаваў заўсёды сакратар.

— Таварыш дырэктар, дазвольце пачаць нашую гутарку ўжо не з апартунізму, — адразу ўзьняў свой голас сакратар, седзячы за дырэктарскім сталом. Апартунізм — ніякае слова! Тут нешта куды большае! Барацьбу за камуністычнае выхаваньне мы прайграем, таварыш дырэктар! Укладзеныя на нас абавязкі мы ня выконваем! Скажу канкрэтна — моладзь у нашым інстытуце расьце ня туды! Вы калі-небудзь думалі над гэтым? Ці вы толькі зацікаўленыя хатнім, прыватным выхаваньнем сваіх дзяцей? А інстытут для вас — толькі месца, дзе вы выкладаеце гістарычны матэрыялізм? Для собскіх дзяцей вы знайшлі, скажам, і нямецкага і ангельскага настаўнікаў, а хто-ж будзе настаўнікам для тых маладых людзей, якія знаходзяцца пад вашай высокай апекай? Думаеце, выплачваць штомесячна дзяржаўную стыпэндыю сваім гадунцом ужо і ўсё? Вы прыслухаліся калі-небудзь хоць на хвілінанчку да таго прытоенага гулу, які нарастае з кажным днём у сьценах, якія мы называем савецкім інстытутам? Мы выкладаем і дыялектычны і гістарычны матэрыялізм, мы выкладаем ленінізм, гісторыю партыі, гісторыю народаў СССР, пэдагогіку й пэдалёгію і шмат чаго іншага, а зойдзе да нас, скажам, якая-небудзь бабулька, паходзіць тут, між намі, якіх два дні, і ўсяму нашаму камуністычнаму выхаваньню — канец! Прабуджаюцца такія цёмныя сілы, вымерыць якія адной толькі гэтак званай кантррэвалюцыяй немагчыма. Той шаблёнчык «кантррэвалюцыі», які мы ўжываем, каб акрэсьліць індывідуалістычную сілу, нічога ня варты.

— Выбачайце, таварыш сакратар партарганізацыі, вы самі карыстаецеся гэтым «шаблёнчыкам».

— Я ўсьведамляю ягоную нікчэмнасьць! Таму я й загаварыў такою, можа нязвычайнай для вас мовай. Рэвалюцыя хутка абяртаецца ў канррэвалюцыю, калі яна не забясьпечаная хлебам, у імя якога яна паўстала. Гэта можа й вульгарна, але гэта так. І тут скажу вам другі канкрэтны факт — вы не забясьпечылі сваю ўстанову хлебам!

— Забесьпячэньне хлебам — гэта такі-ж мой, колькі і ваш абавязак. Але, запраўды, не адзіным хлебам жыў чалавек. Накармеце вы хлебам галодных і яны прададуць рэвалюцыю, якую яны рабілі, калі былі галодныя.

— Таварыш дырэктар, у дыялектыпу гуляць тут няма чаго! Вашыя студэнты ня толькі бяз хлеба, а й бяз зупы. Вы былі калі-небудзь у студэнцкай сталовай? Не, ну вось бачаце? Вы пацікавіліся інтэрнатамі? Вы ведаеце, чым і як жывуць там людзі? Адзін толькі, скажам, ліст, атрыманы нашым студэнтам ад бацькоў зь вёскі, у якім тыя скардзяцца на недаед, і прачытаны сябром, хавае ў сабе такую эмацыянальную сілу, што здольны пераставіць ці аднаму мазгі. Аднаго такога ліста досыць, каб скасаваць усе нашыя вячэрнія палітзаняткі, на якія, дарэчы, ходзяць толькі студэнты. Такія заняткі — толькі праформа, лепш-бы іх ня было!

— Таварыш сакратар партарганізацыі, тое, аб чым вы гаворыце, тычыцца болей вас, чым мяне. Палітычным выхаваньнем кіруеце вы, а ня я, і вам не выпадала-б чытаць мне тут натацыю.

Мэльцар пасьмялеў і перайшоў у наступленьне пасьля таго. як ён упэўніўся, што сакратар адчынена ня ставіць пытаньня, быць ці ня быць яму на становішчы дырэктара інстытуту. Гэтага дырэктар як найболей баяўся. Аднак-жа, сакратар, раздражнёны рэплікай дырэктара, перайшоў у парыве гневу да канкрэтнага:

— Згаджаюся, палітычнае выхаваньне перш за ўсё тычыцца мяне, але я скажу вам зараз проста ў вочы — з такім дырэктарам, як вы, я працаваць не магу! І не магу адказваць за палітыка-маральнае выхаваньне, за ўзровень яго ў нашым інстытуце! Я ня хачу, каб дзеля вас я панёс кару! Як дырэктар, вы проста аказаліся не на вышыні. Вам мусіць быць сорамна, як партыйцу, што вашаю ўстановаю апякаюцца найболей ворганы дзяржаўнай бясьпекі.

— Гэтай апекі, як бачна, захацелі вы, і толькі ўзвальваеце на мяне віну.

— Як-бы там ні было, факт застаецца фактам. Загадамі аб звальненьні вы не застрахуеце сябе і не паднімеце мараль у студэнтаў. Прабачце, вы й тыя загады пішаце пад дыктоўку ўсё таго-ж вашага шэфа. Пішаце, а потым праз некалькі гадзін адменьваеце па званку вашага апякуна. Дарэчы, чаму вы анулявалі загад аб звальненьні Корзюка і Камоцкай?

— Мне загадалі гэта зрабіць.

— Хто?

— Ворганы, як вы насьмешліва называеце іх. Камоцкая яшчэ не асуджаная і да суда я ня меў права яе звальняць, а

# „Джамалумгма“ Алексея Карпюка

Паслабленьне партыйнага кантролю над падсавецкай літаратурай ня прынесла пісьменьнікам Беларусі поўнай творчай свабоды. Партыйны суб'ектывізм і эгаізм, афіцыйна названы «соцрэалізмам», застаецца адзіным дазволеным мэтадам падсавецкай літаратурнай творчасьці. Таму ўва ўсіх жанрах літаратуры апісаньні падзеяў, асабліва тых, што адбываліся ў савецкі пэрыяд або мелі палітычны характар, усё яшчэ пазбаўленыя аб'ектыўнасьці й праўдзівасьцці. Такія творы, пісаныя ў падтрымку партыйнай палітыкі, ня могуць захапіць масавага чытача, ня могуць выклікаць у ім успамінаў аб перажытым. Яны нудныя, ад іх нясе хвальшам, нясумленнымі падтасоўкамі і лякіроўкай. Таму й лёс такіх твораў недаўгавечны. Пра іх звычайна або зусім забываюцца, або пачынаюць іх перапрацоўваць у мамэнт зьмены палітычнага курсу, што ў савецкіх умовах адбываецца даволі часта.

Здараецца, аднак, што той ці іншы пісьменьнік здабываецца на больш аб'ектыўнае й крытычнае насьвятленьне падзеяў і такі твор з першых радкоў прыкоўвае да сябе ўвагу чытача. Возьмем, напрыклад, аўтабіяграфічны нарыс беларускага пісьменьніка Аляксея Карпюка «Мая джамалумгма», апублікаваны ў другім нумары часапісу «Маладосьць». Карпюк апісвае некаторыя мамэнты з свайго жыцьця. Але апісвае так праўдзіва, што чытач яму поўнасьцяй давярае. Гэта адзін зь нешматлікіх біяграфічных твораў беларускай савецкай літаратуры апошняга часу, дзе аўтару ўдалося паказаць амаль зусім несфальшаваную жыцьцёвую праўду. Дапамагло Карпюковаму нарысу й тоў, што ён нават найбольш трагічныя сытуацыі падае з добрай дозай гумару.

Аляксей Карпюк нарадзіўся й жыў у Заходняй Беларусі. Ягоны бацька меў 18 гэктараў ворнай зямлі і 13 гэктараў батола. На савецкія ўмовы — гэта кулак, клясавы вораг. Але пад польскай акупацыяй бацька быў гарачым прыхільнікам савецкай улады, актыўным камуністычным дзеячом — сакратаром партыйнай ячэйкі. Гэтыя абставіны былі прычынай шматлікіх трагічных і трагікамічных сытуацыяў.

Вось як апісваў аўтар настроі жыхароў ягонай мясцовасьці — іхныя спадзяваньні на савецкую ўладу і расчараваньні:

«Пагражала хлопцу турма за палітычную дзейнасьць — ён уцякаў на ўсход. З гарачкі ажэняцца маладыя, убачаць, што ў іх ні кала, ні двара, ні работы — бягуць на ўсход; там усім хопіць і работы і прытулку. Тыя, хто ўцячы ня мог, пацяшалі сябе: нічога, тут Пілсудзкі, але ў нас ёсьць Радзіма. Ва ўяўленьні нашых людзей яна была раем на зямлі, дзе цякуць малочныя рэкі, людзі ходзяць і жывуць у палацах. Ого, савецкія людзі ўсё могуць: нельга было выжыць пырнік з палёў, то скрыжавалі яго з пшаніцай і здымаюць па сто цэнтнараў з гэктара! Пачынаецца засуха ў якім-небудзь раёне? Нічога! Рускія вучоныя пашлюць туды дажджавыя хмары. Пагражаюць бальшавікам японцы? Няхай паварушчацца толькі! Савецкія інжынеры выкапаюць канал, пусьцяць па ім Ледавіты акіян! Маўчаў-бы лепш і немец, бо толькі загадаюць Тэльману — і заўтра-ж будзе ў Нямеччыне рэвалюцыя! І Пілсудзкаму паголяць вусы, хай толькі паткнецца!..

Вера людзей была сьвятой да наіўнасьці, упартай да сьмерці, часамі гранічыла з сэктанцтвам. І мой бацька ў сваёй веры быў цьвёрды да сьлепаты. Ён рэвалюцыйны дух прынёс яшчэ з арміі, у вёсцы арганізаваў ячэйку кампартыі, потым — камсамолу.

Памятаю, за мяжу ўцёк стары халасьцяк Раман з суседняй вёскі Зубкі, але праз два месяцы вярнуўся. Прыйшоў да бацькі пануры, маўклівы, пастарэлы. Я сядзеў ля печы, стругаў палена: мяне мужчыны не таіліся.

— Ну, расказвай, як там? — спытаў бацька.

І Рамас пачаў расказваць, што ў саветах жанчыны ходзяць у галёшах на босую нагу... А ў магазынах — чарга... за чорным хлебам...

— А-а, мярзотнік, ужо купілі цябе паны! — абарваў яго бацька... Прач з маёй хаты, прадажная шкура!

Раман заплакаў і пайшоў.

Паліцыянты азалацілі-б Рамана, каб ён згадзіўся расказаць, што бачыў за мяжой. Толькі ён нікому не сказаў ні слова, але сам ня мог перанесьці душэўнага разладу. З нашай хаты ён пайшоў за зубкоўскія гароды і ўтапіўся. Аб сіле яго волі можа сказаць толькі рэчка, у якой ён, цьвярозы, прыняў сьмерць. Ёй людзі ня прыдумалі нават назвы. У самым глыбокім месцы яна мела семдзесят сантымэтраў глыбіні.»

Запраўды, беларусы старэйшага й сярэдняга веку з Заходняй Беларусі могуць прыгадаць сабе шмат падобных прыкладаў.

Горкая доля напаткала й тых, што сьлепа верылі ў прапаганду і ня вўрылі нават навочным сьветкам, такім як Раман.

Малалы Карпюк пайшоў сьледам свайго бацькі, стаўся камсамольцам, падпольшчыкам. Пробаваў таксама ўцячы ў Савецкі Саюз, але заблудзіўся ў палескіх балотах. Яго злавілі польскія пагранічнікі і, «ўсьпаўшы як сьлед на дарогу», адправілі дахаты.

Аляксей Карпюк зусім рэалістычна апісвае далей тую атмасфэру ўзаемнага недаверу й падозраньня сярод камуністычных падпольшчыкаў заходняй Беларусі, якая пашырылася пасьля атрыманьня інструкцыі з СССР аб патрэбе ачысткі партыі й камсамолу ад кулакоў і іншых гэтак званых ворагаў народу. Першай ахвярай такой чысткі ледзь ня стаўся ягоны бацька — сакратар партарганізацыі, але кулак.

Яшчэ большую трывогу выклікалі чуткі, што савецкая ўлада пачала саджаць у турмы і фізычна ліквідаваць былых катаржнікаў польскіх турмаў, якія ўцяклі ў СССР.

Карпюк піша:

«Раптам папаўзьлі чуткі, быццам былыя катаржнікі са Страшава, што ўцяклі ў СССР, ворагі народу! Людзі дзівіліся спачатку, паціскалі плячамі.

— Місіць, так трэба. У Маскве разумнейшыя за нас. Ведаюць, што робяць! — уздыхаючы, пацяшалі тады сябе мае землякі.

Няпрыкметна для самых сябе некаторыя таксама пачалі прыглядацца адзін да другога і недаваряць. Сталі шукаць ворагаў і ў сябе. Сусед пачаў насьцярожана прыглядацца да суседа, брат — ня верыць брату, сын — бацьку.»

Выконваючы інструкцыі Масквы, у камуністычным падпольлі заходняй Беларусі ад падозраньняў перайшлі да дзеяньня. У выніку «бруднай падазронасьці», як піша аўтар, ягоны найлепшый сябра, «шчыры камуністы», «праз вакно атрымаў кулю ў скроню» ад свайго іншага былога сябры. Гэтае палажэньне адлюстроўвала ў мініятуры тую атмасфэру, якая панавала тады ў Савецкай Беларусі і ўва ўсім Савецкім Саюзе.

Але нічога не пераконвала наіўнага камуністычнага актывістага — Аляксея Карпюка. Ён зьбірае сярод насельніцтва грошы й харчы для рэспубліканскай арміі ў Гішпаніі. Нават сам гарэў душой паехаць дабраахвотнікам у Гішпанію, але перашкодзіў бацька.

Нямецка-польская вайна. Заходнюю Беларусь займаў савецкая армія. Аляксей Парпюк паступае ў Наваградзкае пэдвучылішча. Хоча паступіць таксама ў камсамол, але яго ня прымаюць, бо ў бацькі многа гэктараў зямлі. З-за гэктараў пацярпеў і бацька. Яго абклалі кулацкім падаткам. Заслугі ў камуністычным падпольным змаганьні ня былі ўзятыя пад увагу.

Усё апісанае Аляксеям Карпюком гучыць праўдзіва. Усе прыгадваюць, што так яно было ў запраўднасьці.

Але пачынаецца савецка-нямецкая вайна. Карпюк, далей верны камуністычным ідэалам, бярэ ў ёй актыўны ўдзел па савецкім баку.

*

Нядаўна ўвесь сьвет адзначаў 20-ую гадавіну перамогі над гітлераўскай Нямеччынай. Асабліва гучна гэтая гадавіна была адзначаная ў Савецкім Саюзе. З гэтай нагоды газэты й часапісы былі перапоўненыя ўспамінамі аб гераічным змаганьні жаўнераў савецкай арміі і савецкіх партызан. Пачалі нават выхваляць заслугі органаў дзяржаўнай бясьпекі й самога Сталіна ў перамозе над гітлерызмам. Але ніводным словам ня была адзначаная тая жорсткасьць і несправядлівасьць, якую ў часе й пасьля вайны цярпелі з боку савецкіх уладаў навет тыя, хто праліваў кроў за савецкія інтарэсы.

У савецкай прэсе й мастацкай літаратлры ўжо ўздымаліся некаторыя пытаньні нязвычайнай падазронасьці й жорсткасьці вышэйшага камандваньня ў дачыненьні да жаўнераў, вышэйшых уладаў — да падпарадкаваных. Возьмем абаронцаў Брэсцкай крэпасьці, якіх савецкая літаратура ўзьняла да легендарных постацяў. Толькі прыпадкам, калі пісьменьнікі пачалі цікавіцца лёсам жывых абаронцаў крэпасьці, высьветлілася, што тыя зь іх, якія трапілі былі ў палон да немцаў, апынуліся пазьней сярод зьняволеных у савецкіх канцлягерах.

У сваёй біяграфіі пісьменьнік Карпюк падае новыя падобныя факты. На прыкладзе свае ўласнае асобы ён паказаў, што сталінскія ўлады не давяралі нават былым вязьням гітлераўскіх лягераў сьмерці.

Аляксей Карпюк у часе нямецкай акупацыі праводзіць акты сабатажу супраць нямецкага ваеннага транспарту. За гэта ён трапляе ў нацыстаўскі лягер сьмерці Штуттоф у Прусіі, у якім загінула 150 000 чалавек. Карпюку аднак удаецца ўцячы з лягеру. Ён прабіраецца на бацькаўшчыну, далучаецца да камуністычных партызанаў і далей змагаецца супраць гітлераўцаў. Калі савецкая армія заняла Беларусь, Карпюк рвецца ваяваць далей. Ён піша:

«Набіралі групу дэсантнікаў у Польшчу і Прусію. Папрасіўся туды і я, але мне адмовілі. Выявілася, што ў мяне 'заплямленая' біяграфія: я быў у Штутгофе, мой бацька меў шмат гэктараў... Папрацаваўшы некалькі тыдняў інспэктарам, я зайшоў у ваенкамат, папрасіўся на фронт, і мне адразу выпісалі позву.

Як і мой бацька ў першай сусьветнай вайне, цяпер я стаў наводчыкам 76-мілімэтровай гарматы славутага 756 стралковага палка, якому потым выпала штурмаваць райхстаг. З баямі прайшоў я ад Варшавы да Бэрліну... За два месяцы немцы разьбілі ў мяне дзьве гарматы: адну на Одры, другую — за мястэчкам Флятаў у Заходняй Прусіі. За Флятавам мяне раніла. Раніла мяне другі раз у Бэрліне на вуліцы Мольткэ. Першы раз куля толькі чыркнула па плячы. Цяпер-жа я атрымаў у лёгкае тры асколкі — мяне чакала доўгае лячэньне і барацьба за жыцьцё.»

Карпюк выжыў, вылячыўся, уступіў у партыю, скончыў пэдагагічны інстытут і атрымаў накіраваньне на працу ў Сапоцінскі раён у якасьці загадчыка аддзелам народнай асьветы.

«Першым сакратаром райкому, — піша Карпюк у сваёй аўтабіяграфіі, — працаваў тады таварыш Яцкевіч... Да людзей ён адносіўся падазрона і бачыў у іх толькі кепскае, ведаў адну мэтаду кіраваньня — павышэньне галасу. Мяне ён адразу западозрыў у палітычнай нядобранадзейнасьці на тэй падставе, што мой бацька меў шмат гэктараў зямлі, а я быў у нямецкім лягеры, — тады гэта лічылася страшэнным грахом...»

«Пад выглядам ачысткі кадраў ад непажаданага элемэнту ў прыгранічным раёне Яцкевіч дабіўся майго звальненьня з работы.»

Доўгія гады пасьля вайны ўлады капаліся ў біяграфіях нават найбольш адданых камуністых і шукалі мамэнтаў для падозраньня й абвінавачаньня. У той час як пісаліся тамы ўзьнёслых одаў у гонар загінуўшых на франтох і ў гітлераўскіх канцлягерах, уцалелыя ўлзельнікі ваеннай трагедыі не маглі спаць скапойна. Сталінскія лягеры сьмерці папаўняліся мільёнамі новых нявінных ахвяраў. Гэтая старонка гісторыі падсавецкіх народаў яшчэ мала асьветленая ў савецкай літаратуры. Асуджаючы вайну, трэба асудзіць і ўсе іншыя формы несправядлівасьці, зьдзеку й гвалту. Нельга спыняцца на фармальным асуджэньні аднаго Сталіна й ягонай практыкі. Каб народы маглі паверыць, што гэтая практыка больш не паўторыцца, трэба каб пэрыяд сталінскага тэрору быў дакладна асьветлены з пункту гледжаньня запраўднага гуманізму.

Беларускі пісьменьнік Аляксей Карпюк зрабіў свой сьціслы ўклад у гэтую справу.

**А. Залескі**

# Пытаньне будучыні беларускае мовы

З камсамольскага органу БССР, газэты «Чырвоная зьмена», перадрукоўваем ніжэй верш маладога беларускага паэта **Алеся Ставера** «Мой народ». Верш цікавы думкамі паэта про ролю роднае мовы.

## *Мой народ*

**Мой народ праз стагодзьдзі пранёс дабрату,**
**Да суседзяў-народаў павагу,**
**Знае сьвет навакольны яго прамату**
**І любоў да жыцьця і адвагу.**
**І заўсёды ў віхурах вякоў і нягод,**
**У зямной непагодзе суровай,**
**Вылучала між іншых мой мужны народ**
**Беларуская родная мова.**
**Мой народ зьберагае сваю даўніну**
**Кожны нашай гісторыі знаўца**
**Добрым словам успомніць ня раз Скарыну**
**І пахваліць за мудрасьць Мсьціслаўца.**
**Каліноўскага імя навокал гучыць,**
**І Купалы і Коласа слова, —**
**Новучыла іх край беларускі любіль**
**Беларуская родная мова.**
**Мой народ ганарыцца сягоньня сваім**
**Партызанскім праваслаўным краем.**
**У вялікіх бяседах прад сьветам усім**
**Дэлегаты яго выступаюць.**
**Дык чаруй-жа людзей паміж моваў другіх**
**І гучы вечна, ярака і нова,**
**Мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх, —**
**Беларуская родная мова!**

---

Корзюк наагул нямаведама дзе. Я можа й запраўды пасьпяшаўся зь імі.

Хачу найперш зазначыць вам, што перад ворганамі я ня дрыжу гэтак, як вы, і не страхуюся перад імі, я не боюся іх, бо ня маю грахоў і, значыцца, ставіцца да іх зьняважліва або поўзаць перад імі, у мяне няма ніякіх падставаў. Яны выконваюць сваю функцыю, як мы павінны выконваць сваю. А вы, таварыш дырэктар, перадалі сваю функцыю вашаму шэфу!

— Ці не даволі-б вам прыцiскаць тут мяне, я вам не хлапчук, а, здаецца, трошкі старэйшы за вас бальшавік! Вы, а ня я, стварылі штучную атмасфэру кантррэвалюцыі ў нашым інстытуце. Хто, як ня вы, з трыбуны нядаўна пагражалі і заклікалі шукаць усюды ворагаў, знаходзіць іх там, дзе іх можа й зусім няма. Вы наэлектрызавалі атмасфэру, расьпяклі яе да таго, што ў такіх умовах я й запраўды не магу выконваць сваіх абавязкаў. І прызнаюся — я баюся НКВД таму, што туды ходзіце вы! Вы зайшлі калі-небудзь да мяне перад тым, як пайсьці туды? Не! Цяпер насьміхаецеся, што я дрыжу. І калі гаварыць тут праўду — вы перашкаджаеце мне працаваць!

Дырэктар раззлаваны, падняўся з крэсла і пачаў бегаць па сваім габінэце. Ад таго, што габінэт быў занадта малым, усяго некалькі крокаў, дырэктар часта павяртаўся і выглядала, што ён топчыцца на месцы, тыкаецца то ў вадну, то ў другую сьцяну.

Сакратар партарганізацыі спакойна назіраў за ім.

— Адно тое, што між намі няма паразуменьня, ужо пагражае нам абоім. Прашу зразумець гэта. Што-ж тычыцца вашага закіду, скажу — я, як мага, абараняю нашу ўстанову там! Забыўшыся на ўсё ўзаемныя крыўды, прапаную разам працаваць пановаму!

Сакратар працягнуў руку Мэльцару. Той падаў сваю, і гутарка паміж імі пачалася больш лагоднай.

— Маю колькі канкрэтных прапаноў. Абавязкавае выкладаньне пабеларуску! Чаму гэта важна? Наш шэф абвінавачвае нас за нацыяналістычныя настроі сярод нашай моладзі. Каб гэтага ня сталася запраўды, мы павінны задаволіць законныя нацыянальныя патрэбы беларускай моладзі. Мы працуем у больш складаных умовах, чым нашы рускія таварышы, дзе нацыянальнага пытаньня фактычна не існуе. Далей — нашае, так сказаць, пагранічнае палажэньне! Мы ў падсуседзях у капіталістычнага сьвету. Гэты сьвет будзе заўсёды нас правакаваць, уплываць на нас і шкодзіць нам. Не забывайма Польшчы, мы працуем там у Заходняй Беларусі, і што тычыцца беларускага пытаньня, дык мы мусім быць у гэтым сэньне прыкладам для нашых заходніх братоў, прыцягальнай сілай!

Сакратар партарганізацыі на момант спыніўся і, пазіраючы ў вочы дырэктару, дадаў:

— Таварыш дырэктар, давайце працаваць так, каб у нас ня было ніводнага арыштаванага!

— Згода, калі гэта будзе залежыць толькі ад нас.

Дырэктар быў нямала зьдзіўлены хлапецкай наіўнасьцяй сакратара партарганізацыі.

17.

Неверагоднае бывае верагодным. Так і з Раманам Корзюкам. Ёсьць людзі, якія ніколі ня турбуюцца за свой лёс, ідуць наўпрасткі, куды іх вядзе іхнае хаценьне, і толькі дзіву даесься, як выносіць іх нейкая няведамая сіла з самых неверагодных абставінаў. Але гэта здараецца хіба толькі з маладымі людзьмі. Гэта заюшаныя людзі, і можа найшчасьлівейшыя ў сьвеце. Здаецца, што не яны самі дбаюць аб сабе, а нехта іншы вядзе іх, і яны праходзяць роўна гэтулькі, колькі ім адведзена. Падобных людзей нагадваў сабою і Раман Корзюк. Ідучы ў Польшчу, Корзюк ведаў, што ён не застанецца там, але ўсёт-кі йшоў, як-бы яго хто пхаў туды. Прывёўшы сям'ю ў Польшчу, ён лічыў, што сваё заданьне выканаў, і, такім парадкам, пачуваў сябе свабодным, нікому непатрэбным чалавекам. Сям'я больш яго ўжо ня зьвязвала. І Корзюк захацеў, — ня вырашыў, а захацеў, — пайсьці назад. Гэтае хаценьне было нагэтульки вялікае, што навет аднае лішняй гадзіны ён не хацеў быць у Польшчы. Ён, канечне, і ня думаў складаць нейкую ахвяру на аўтар Польшчы, як таго дамагаўся польскі чын. Сваёй ахвярнасьцяй Корзюк не хацеў здабываць сабе ласкі. Польскі чын спадабаўся яму сваёй высокай ідэйнасьцяй, але ён-жа стаўся для Рамана і вялікім дакорам. Калі высокі польскі чын загаварыў у часе допытаў аб гераізьме польскіх сыноў і дачок, якія зьвеку гатовыя ахвяраваць сабой, каб толькі жыла іхная Бацькаўшчына, Корзюка ашаламіла раптоўная думка: ён зраднік сваё радзімы. Польскі чын, здавалася, хацеў і падказаць Раману такую думку, і не зрабіў гэтага толькі дзеля далікатнасьці. Ніколі раней і ў голаў Раману ня прыходзіла, што перабегчы — значыць зрадзіць. Раман баяўся гэтага слова. Ён ня шукаў тут для сябе ратунку, ён ратаваў толькі іншых. А цяпер выходзіць, што ён уцёк, пабаяўся небясьпекі, уцёк дзеля свае собскай выгоды, таму толькі, што яго абвінавачваюць у нейкай кантррэвалюцыі, у прыналежнасьці да арганізацыі, аб існаваньні якой ён дачуўся толькі ад сьледчага. Не пасьпелі яму паказаць недарэчныя наганы, як ён адчуў сябе злоўленым і вінаватым, пабаяўся арышту, паддаўся Кандрацэню, пакінуў навуку, пакінуў усё, каб толькі зьберагчыся. Які-ж ён кулак і дзе яго шырыня, якой ён хваліўся перад самім сабою! Сабака, і той не пакідае свайго кута, здыхае на двары гаспадара, а ня йдзе. А я пайшоў, схаваўся! Студэнт, называецца! Тое «пане студэнце», зь якім падкрэсьлена ветліва зьвяртаўся да яго польскі чын, набыло цяпер для Рамана сэнс напамінку пра абавязкі студэнта. Які-ж я студэнт! Студэнт — гэта нейкае чыстае, ідэяльнае слова. Я плямлю яго. Студэнт і перабежчык-зраднік у ваднэй асобе ня могуць зьмясьціцца. Студэнт — гэта ўсё-ткі сымбаль рэвалюцыйнасьці, а ня толькі аднэй панскай далікатнасьці. Студэнт — гэта Сібір, і Сібіру запраўдныя студэнты ніколі не баяліся.

Раману шчасьціла ўва ўсім. Польскія ўлады абыйшліся зь ім добра і адпусьцілі яго. Навет паклапаціліся аб тым, каб ён ня трапіў у рукі сваім, перакінулі ў Лацьвію, каб ужо адтуль выпхнуць на ўсход. Чаму палякі абралі для яго такі шлях, Раману невядома было. Праваднік-жа казаў, што лацьвійска-савецкая граніца сьцеражэцца ня пільна, латышы не бягуць у Савецкі саюз, як бягуць туды беларусы з Польшчы. Дык для Раманавай бясьпекі і было вырашана пераходзіць мяжу там. Рамана ўсе-ткі зьдзіўляла, чаму так прыхільна паставлісія да яго палякі. Але й на гэтае Раманава недаўменьне даў адказ на дзіва гаваркі праваднік, — Раман, мусіць, спадабаўся палякам, казаў ён, і яны спадзяюцца мець у яго асобе свайго чалавека за кардонам.

— Польская дэфэнзыва, пане мой, нічым не бракуе, — закончыў ён, сьмяючыся. — Можа калі і пан спатрэбіцца нам.

Пражыў Раман і часіну сьмяротнага страху. Быў адзін мамэнт, калі Раман падумаў, што праваднік-паляк хоча зь ім раськвітацца. Патое, думаў ён, палякі й выдумалі такую вандроўку.

Зьлезьлі ноччу зь цягніка недзе на глухім паўстанку. Да граніцы, як казаў праваднік, заставалася ўжо з пару кілямэт-

# Ці ня сорамна, дзядзька Шырма?

У сяголятнім студзені ў Менску адбылася так званая дэкада расейскага мастацтва ў БССР. Пад ёй там цяпер разумеюцца звычайныя гастролі тэатраў савецкаімпэрскае Масквы па гарадох ейных каляніяльных народаў. З гэтае прычыны на старонках бэсэсэраўскіх газэтаў зьявілася ладне акафістаў, якім бракуе пачуцьця ня толькі нацыянальнёй, але й чалавецкай годнасьці. А паміж імі адно з першых мейсцаў па свайму прыслужніцтву займае артыкул Рыгора Шырмы з паказальным назовам «Калі ласка!», зьмяшчаны ў газэце «Советская Белоруссія» ад 10 студзеня г. г.

Свой вернападданы твор Рыгор Шырма распачынае ўрачыстым лёзунгам: «Наш саюз зь вялікім расейскім народам уходзіць сваім карэньнем у далёкае мінулае». Ці хіба гэта адпавядае праўдзе? Няма тут нават патрэбы спасылацца на шматлікія гістарычныя факты, бо цалкам хопіць створанага народам фальклёру. І можа лепш было-б замест «Калі ласка!» нацягнуць паміж дзьвюма вежамі 13-цінавярховых дамоў на менскай Прывагзальнай плошчы вялікі транспарант зь беларускай народнай прыказкай:

— Тату, тату, лезе чорт у хату
— Дарма, сынку, абы не маскаль.

Ня дрэнна было-б таксама, каб дзяржаўная акадэмічная капэля пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмё прывітала яшчэ на вагзальнай плятформе маскоўскіх гасьцей, продкаў якіх нашыя продкі сустракалі са зброяй у руках, цьпевам беларускай народнай гістарычнай песьні:

«Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці.
А як з Воршы уцякалі,
Рэчку невялічку праклінали:
— Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як нашая слава тутака прапала»

Зьгінаючыся ў сваім алілуйным артыкуле ў крук перад Масквой, Рыгор Шырма спрабуе забрудзіць сьветлы вобраз нязломнага змагара за Беларусь, сьцьвярджаючы, што «Кастусь Каліноўскі — вучань і пасьлядоўнік расейскіх рэвалюцыйных дэмакратаў». Няўжо? Усе мы ў сваіх сэрцах, да апошняга іхнага тыхканьня, перахоўваем ягоныя перадсьмяротныя словы:

«Беларусы! Браты мае родныя!

З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас»

— і далей —

«Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што толькі тады зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе»

Асабліва захапляецца Рыгор Шырма былым Віленскім настаўніцкім іститутам, бо, маўляў, ягоныя студэнты літаральна нядасыпалі вывучаючы расейскую культуру і таму, быццам, добра яе ведалі. А між тым сам сябе ў гэтым сэньсе падважвае. Так ён піша: «Незабывальны рэпінскі «Паляшук», які абапёрся на агарожу недзе каля Прыпяці». Ну навошта дарэшты распранацца на вачох у расейцаў, якія бяз сумлеву ведаюць гэты малюнак, што знаходзіцца ў Трэцякоўскай галярэі ў Маскве?

Не «Паляшук», а «Беларус». І не з-панад Прыпяці, а з-па-над Дзьвіны. Свой эцюд «Беларус» Рэпін напісаў у 1896 г. пад Віцебскам, у маёнтку Здраўнева, на беразе Дзьвіны каля ейнага грымотнага парогу Закладзень. Ягоны тыповы «Беларус» з адзабальнай самавітасьцю, з пачуцьцём чалавецкай годнасьці, з гонарам і без варожасьці глядзіць на вас. Няхай на ім саматканая, але разам з тым беласьнежная сьвітка, падпярэзаная саматканым, але прыгожым каляровым пасам з кутасамі, аднак ён, трапна адбіты й памастацку адкрыты І. Рэпіным, нічым не падобны да рэпінскага-ж «Мужычка з палахлівых» (1877 г.), зь якога, дарэчы, усе капаўкі падабралі затуканыя бэсэсэраўскія паслугачы Масквы.

Прабачце, дзядзька Шырма, але-ж другую няпрыемнасьць вы падклалі студэнтам Віленскага настаўніцкага інстытуту, калі пішаце, што ім дужа падабаліся наступныя радкі зь Лермантава:

«Лучем румяного заката
Твой стан, как лентой обовью»

(Румены прамень сонца на заходзе абвіне твою постаць, як істужка).

Значыцца кепска, вельмі блага яны ведалі Ю. Лермантава, абраўша зь ягонай дасканалай творчасьці выпадковы альбомны вобраз. І ці не зрабілася за вас няёмка расейцам, калі толькі яны, хай сабе зь нязвычайнай для іх ветлівасьці чыталі ваш артыкул у «Советской Белорусіі»?

Мы далей арганічна ня ў стане падзяліць бязьмежную радасьць Рыгора Шырмы з тае прычыны, што «вялікі пралетарскі пісьменьнік» Максім Горкі захапіўся творам Янкі Купалы «А хто там ідзе», пераклаўшы яго на расейскую мову ды надаюды яму адначасна годнасьць беларускага... гімну. Да гэтага добрага твору трэба падыходзіць, цяпер у гістарычным пляне. Ён быў напісаны Янкам Купалам яшчэ ў нашаніўскія часы, калі падбітыя Беларусы марылі не пра незалежнасьць, а пра тое, каб, хоць — «людзьмі звацца». Магчыма ўласьне таму «А хто там ідзе» і спадабаўся расейцу да апошняй кроплі крыві, Горкаму, які, мабыць, спадзяваўся, што далей гэтага сьціплага жаданьня Беларусы ня пойдуць. І ніякага дзіва ў тым, што гэты верш ніколі ня будзе беларускім гімнам, як ня стаўся ім і «Ад веку мы спалі». Аднак справа нават і ня ў гэтым, а можа... акурат у гэтым.

Максім Горкі, у сувязі з вершам »А хто там ідзе», у сваім лісьце да М. Каццюбінскага паблажліва ахарактарызаваў Янку Купалу й Якуба Коласа, як — «славные ребята». У бэсэсэраўскіх выданьнях гэтыя «ребяты» звычайна дыпляматычна й хлусьліва перакладаюцца, як — «хлопцы» замест, даруйце, адпаведнага ім тэрміну нашай мовы — блазнота. Ці адважыўся-б Максім Горкі так назваць сваіх сучасьнікаў у расейскай літаратуры — Льва Талстога, Чэхава, Буніна, Купрына, Андрэева ды іншых? І няма ў гэтым ягоным выказваньні нічога апрача расейскай вялікадзяржаўнай пагарды да «нейкіх» беларускіх дудароў.

А можа я ня маю рацыі? Магчыма й дагэтуль беларускі народ марыць пра тое, каб — «людзьмі звацца»? І згадваецца перадусім нашая добрая беларуская моладзь на чужыне, якая, таму яна й моладзь, любіць часам пазабавіцца. Акрамя тутэйшых танцаў яна ведае й паважае свае родныя скокі — «Лявоніху» і «Мяцеліцу», «Бульбу» і «Юрачку», «Гняваш» і «Калаўрот» ды ладне іншых, аб якіх даведалася ад сваіх бацькоў і дзядоў. Аднак ніколі нашая вольная моладзь не пачне танцаваць «Польку трудовых резервов», аб існаваньні якое мы нечакана дазналіся з тае-ж «Советской Белоруссии» ад 23 сакавіка г. г. Мы тут на чужыне перадусім і дарэшты — людзі і кожны з нас паасобку — чалавек, а ня нейкія рэзэрвы. А там, на нашыя глыбокія жаль і боль, былі калісьці Беларусы «быдлам» для панскай Варшавы, «рабочим скотом» для царскага Санкт-Пецярбургу, «унтэрмэншамі» для фашыстоўскага Бэрліну, каб урэшце-рэштаў стацца «трудовыми резервами» для бальшавіцкай Масквы. Ды што яшчэ больш агіднае — іх прымушаюць праз скокі з адмысловым назовам выхваляць гэтую зьняважлівую рабаўласьніцкую мянушку.

Дзядзька Рыгор Шырма! Хіба вы не разумееце, што вашае добрае імя зрабілася, апраўдываючы вашае прозьвішча, шырмай, параванам, заслонай для недалужных завяртанцаў, якіх цалкам характарызуе ўбогі ўва ўсіх адносінах пасіхач Лявон Прокша? Уласьне дзеля гэтага вы ім і патрэбныя, бо Беларусы на чужыне да старой памяці шануюць усё-ж вас, а ня іх. І разам з тым мы — колішнія падсавецкія грамадзяне — добра ведаем, што вы ня ў стане былі наразе з гонарам прыгадаць маскоўскім гасьцям, што першую п'есу для першага маскоўскага тэатру напісаў Беларус Сымон Полацкі. І таксама разумеем, што ня можа вашая выдатная капэля выканаць, прыкладам, песьню на гнеўныя словы нашага Нацыянальнага Прарока Янкі Купалы:

«Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь
сьвежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часьці, на кускі.

Сыноў тваіх расьсеяў па ўсім сьвеце,
Як птушак ястраб з гнёздаў разагнаў;
Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці
Сярод магіл шукаюць і канаў».

**Юрка Віцьбіч**

# Калёнія для беларускіх дзяцей

Школя сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане прапануе зарганізаваць у гэтым годзе летнюю калёнію для беларускіх дзяцей.

Калёнія будзе ў памешканьні школы пад адрасам:

St. Cyril's House
41 Holden Road
London, N. 12

Яна будзе трываць ад сыботы 31-га ліпеня (прыезд) да нядзелі 8-га жніўня (заканчэньне й ад'езд).

Кошт удзелу аднаго дзіцяці ў калёніі выносіць чатыры з паловай ангельскіх фунтаў. У гэтую суму ўлічаны памешканьне і ўтрыманьне, уключна з вячэраю ў сыботу 31-га ліпеня й абедем у нядзелю 8-га жніўня. Кошты падарожжа й асабістых выдаткаў дзіцяці бацькі павінны пакрыць асобна.

Калёнія прызначаная ў першую чаргу для беларускіх дзяўчат у веку 8-15 гадоў. Ёсьць аднак такасама абмежаваная колькасьць месцаў для малых хлапцоў (8-9 гадоў).

Бацькі, якія жадалі-б выслаць сваіх дзяцей на калёнію, павінны зьвярнуцца на адрас кіраўніцтва калёніі, залучыўшы дэпазыт у вышыні аднаго ангельскага фунта. Тыя, што жывуць у Брадфардзе й ваколіцы, павінны пісаць на наступны адрас:

Mrs. H. Michaluk
136 Southfield Road
Bradford 5, Yorks

Усе іншыя павінны пісаць да а. А. Надсона на адрас Школы сьв. Кірылы ў Лёндане, паданы вышэй.

**Увага!** Дапазыт будзе зьвернуты, калі-б калёнія не магла адбыцца, або калі-б дзіця з паважных прычынаў не магло ўзяць у ёй удзялу.

# Колькі слоў аб тэстамэнтах

Людзі кажуць: жывы чалавек аб жывым і думае. Вельмі трапна. Але на гэтым белым сьвеце жыцьцё цячэ сваім руслом — усё зьмяняецца. Пад гэтыя законы падпадае й нашае жыцьцё... Паманеньку, адзін па адным, мы выкрэсліваемся з жыцьцёвай лісты, пакідаючы сваіх блізкіх і далёкіх родных, сяброў, супрацоўнікаў, суўласьнікаў, сяброў па парафіі ці арганізацыі, а таксама пакідаем па сабе нешта з набытага. Звычайна тут, у Паўночнай Амэрыцы, бальшыня людзей забясьпечваецца на такія выпадкі тэстамэнтамі, у якіх яны выказваюць свае жаданьні што рабіць з тым, што яны пакідаюць, каму й колькі чаго перадаць і г. д. Гэта значна ўпрашчае працу адпаведных уладаў.

Мне асабіста даводзіцца аднак наглядаць, што з нашымі шматлікімі суродзічамі справа выглядае горш. Яны чамусьці ўважаюць: «пашто ўсё гэта». Некаторыя нават не застрахоўваюць на ўсякі вёпадак свайго жыцьця, асабліва самотныя, абцяжваючы пазьней сваіх сяброў і знаёмых непрадбачанымі выдаткамі. Здараліся такія выпадкі, што людзі пакідалі пасьля сябе вялікую маемасьць, але таму, што не патурбаваліся ў свой час заплаціць пару даляраў адвакату за тэстамэнт, іхныя сябры ці мясцовыя ўлады наладжвалі ім за ўласныя сродкі скромныя паховіны, у той час, як маемасьць нябожчыкаў пераходзіла, паводля закону, розным трэставым кампаніям. Калі нехта ня мае блізкіх спадкаемцаў, няхай памятае, што ёсьць беларускія дапамаговыя ці царкоўныя арганізацыі, якія патрабуюць сродкі для сапраўды добрых мэтаў.

Няхай гэтая зацемка зьверне ўвагу нашых суродзічаў на неабходнасьць плянаваць сваю будучыню і застрахоўвацца ад нечаканасьцяў.

**Антон Маркевіч**

**УВАГА!**

**Выходзіць з друку чарговы 3-ці нумар зборніку**

**«ЗАПІСЫ»**

**Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.**
**У зборнік уваходзяць навуковыя артыкулы з галіны беларускай гісторыі, літаратуры і іншыя.**

**ЦІ ВЫ ЧЫТАЕЦЕ ЧАСАПІС МАЛАДОГА ПАКАЛЕНЬНЯ**

**«БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ»?**

**Зрабіце падпіску яшчэ сяньня, пішучы на адрас:**

**„Byelorussian Youth"**
**P. O. Box 96**
**Brooklyn, N. Y. 11222, U.S.A.**

**Падпіска на год — тры амэрыканскія даляры**

раў. Трэба было прайсьці дужа камяністую, глухую і дзікую мясцовасьць. Ніякіх сялібаў нідзе ня было. Ішлі не гамонячы. Неўзабаве наткнуліся на нейкую будыніну. Зайшлі. Святла ня было. Паляк прывітаўся палацьвійску. Яму адказала на тэйжа мове жанчына, па голасу — маладая. Раман нічога ня мог разгледзець у цямрыні, застаючыся стаяць ля парогу. Пасьля кароткай гаворкі, жанчына затупацела, і хутка ў кутку засьвяцілася газоўка. Раман аж аслупянеў: насупраць сябе ён пабачыў не жанчыну, а падлетка гадоў чатырнаццаці. Гэта так няпрыемна ўразіла Рамана, што яму ўсё здалося тут падазроным, няпэўным і небясьпечным. Агледзеўшыся, Раман заўважыў, што ў хаце няма ніводнага вакна, ці можа яму толькі так здалося. У кажным разе, адчуваньне было — быццам ты ў падвале, ці ў якім скляпеньні. Праваднік сігануў наперад і сеў за маленькі столік, запрасіўшы і Рамана.

— Падай гарэлкі! — зьвярнуўся праваднік да падлетка ўжо папольску. — Хочацца трохі выпіць.

Піў паляк, аднак, ня «трохі», а куляў чарку за чаркай, змушаючы і Рамана.

Але Раман усё адмаўляўся.

— Пі, кажу, усё роўна плаціць будзеш ты!

Раман стаяў на сваім.

— Ня хочаш — ня трэба! Часу ў нас няма, — і паляк падняўся, коўтнуўшы напасьледак яшчэ адну чарчыну. — Зыгмундзік, дай пляшку на дарогу!

«Зыгмундзік» паставіў пляшку на стол.

— Ну, плаці, браце! Ня так-жа я цябе вяду! Колькі каштуе?

«Зыгмундзік» сказаў.

Раман выняў з кішані сваё партманэ і заплаціў злотымі. Выйшлі.

— Я бачыў у пана досыць ладна грошай. Не пашкадавалі табе! — азваўся сур'ёзна, зусім пацьвярозаму праваднік, якбы гарэлкі й ня нюхаў.

Рамана скалынула. «Прывёў сюды, каб ня весьці далей».

— Пану злотыя больш не патрэбныя. Праз паўгадзіны пан будзе на тым баку.

Раману адлягло. Ранейшая думка здалася яму сьмешнай, ён навет засароміўся свайго страху перад паляком. Аддаў усе грошы, якія ў яго былі — і польскія і савецкія.

— Савецкія грошы хай пан трымае сабе на дарогу. Яны мне ні да чога. Я ведаю, што ў пана яны ёсьць.

Навобмацк ён аддзяліў савецкія грошы ад польскіх.

Яны пайшлі далей.

Калі паляк здаваў Рамана Корзюка іншай асобе, недзе зусім блізка пракрычэлі пеўні.

— Гэта на панскім баку. Пан, можна сказаць, як дома, — азваўся лагодна паляк. — І ехалі і йшлі сюды далёка так, каб пан цэлы быў і ў рукі не папаўся.

Аднэй сваёй рукой паляк узяў Рамана за плячо, а другой, выцягнутай, паказваў:

— Вунь бачыш агеньчык, што ледзве коліць цямрыню, гэта хата пана Якуба, на тым баку ўжо. Як зойдзеце да яго, скажы: «Вітаньне, пане Якубе», і пан Якуб адвядзе пана на самую станцыю. Яшчэ й на менскі цягнік пасадзіць, як пан не пашкадуе савецкай паперчыны.

На гэтым паляк ветліва разьвітаўся з Раманам і новы чалавек павёў яго проста на агеньчык хаткі «пана Якуба». Праз колькі маўклівых і ціхіх хвілін яны былі ўжо ў «пана Якуба», — Раман так і не заўважыў, дзе й калі была пяройдзена імі граніца. Перакінуўшыся колькімі словамі зь Якубам, Раманаў спадарожнік вярнуўся назад. Калі Раман перадаў палякова «вітаньне, пане Якубе», пан Якуб усьміхнуўся і толькі сказаў: «Шэльма ён». Корзюк прабыў у пана Якуба якіх гадзіны паўтары. Пан Якуб пачаставаў яго гарбатай з ромам і сказаў, што ён можа здрымнуць яшчэ да цягніка. Стомленасьць, атупеласьць і абыякавасьць да ўсяго сьцішылі Рамана і, седзячы за сталом, ён пачаў дзюбаць носам. Узбудзіў яго Якуб ужо на досьвідку. Да чыгункі было тры кілямэтры і яны пасьпяшаліся.

Сваёй зямлі ён цяперака баяўся. Яму здалося, што ён пражыў недзе шмат гадоў і глядзіць на свой край як-бы ўпяршыню, з трывогай і ўтрапеньнем на душы. Вагзал — невялікая будыніна — глядзеў на Рамана няветліва і запытальна.

У касу за білетамі стаяла колькі чалавек. У чаргу стаў і Раман. Адчынілася вакенца, нешта сказаў касір і вакенца зачынілася. Незадаваленьне прайшло па людзёх. Праз дзесяць хвілін яно адчынілася зноў і пачаўся продаж білетаў. Зьявіўся аднекуль ні то ў форме НКВД, ні то ў форме пагранічніка, — Раман ня мог адрозьніць, — чалавек і стаў каля саменькай касы, аблакціўшыся на балясы. Ён праводзіў вачыма кажнага, хто адыходзіўся зь білетам ад касы. Корзюк паволі пасоўваўся да вакна. Пан Якуб таксама стаяў воддаль. «А можа гэта ён і выклікаў яго сюды». Раман ніразу ня зірнуў у бок чалавека у форме, хоць яму і здавалася, што той аглядае яго. «Гэта добра, што ў мяне саматканы піджак». Ад напружаньня скура на ім аж шорхла. Нарэшце, ён падыйшоў да вакенца. Грошы ён не падрыхтаваў, як гэта рабілі іншыя, і калі яму трэба было плаціць, ён пасьпешна і нязграбна пачаў вынімаць іх з партманэ. Невядома якім парадкам, зашалясьцела з партманэ на падлогу новенькая паперка польскіх злотых. Відаць, у свой час яе не намацаў праваднік, і яна засталася ў Рамана. Чалавек у форме хацеў быў услужыць яму, але Корзюк апярэдзіў яго і паклаў польскія грошы ў партманэ.

Прыйшоў цягнік. Якуб кіўнуў Раману на разьвітаньне галавой. У вагоне, у якім апынуўся Корзюк, было пуста, толькі ў вадным купэ сядзелі, як на выгляд, два службоўцы з партфэлямі на каленях і аб нечым заўзята спрачаліся. Корзюк сеў у наступным ад іх купэ ля вакна і адразу пачаў углядацца ў азызлыя прасторы, што паўставалі з ранішняга паўзмроку і беглі назад, выгінаючыся перад вачыма талеркай і як быццам прысядаючы. Гэта паглынула Корзюка: ніколі раней ён не назіраў такога. Цягнік набраў ужо хуткасьць, ён бег на ўсю сваю моц, і дрэвы, што паказваліся на воддалі, здавалася, сьпяшаліся кінуцца яму ў вочы, каб ён іх запомніў назаўсёды. Аб тым, дзе ён быў, Раману не хацелася думаць, яму цяпер не падабаліся такія думкі, дый цяпер яму здавалася, што ён ня быў нідзе наагул. Тых колькі дзён, якіх яго ня было на гэтай зямлі, ён ня лічыў, яны здаваліся яму нечым нярэальным. Корзюк хацеў думаць, што яго ня было зусім, што ён не існаваў, быў дзесьці па-за часам, як-бы ў нейкай іншай палавіне сьвету, аддзеленай празрыстай, але разам з тым мутнай, нявідочнай плянёнкай. Ды Корзюк у падсьвядомасьці чуў, што гэта ня так, што ён усё-такі быў дзесьці і толькі сябе хоча падманіць што нідзе ня быў. Корзюк хаваўся і ашукваў сябе, каб адмахнуцца ад таго, што засталося ззаду і сустрэцца памагчымасьці бяз болю з тым, што наперадзе.

Корзюк цалком ачнуўся, калі перад ім пачаў паказвацца Менск, перш за ўсе знаёмы яму Дом ураду. Толькі цяпер Корзюк рэальна ацаніў, хто ён, што зь ім. У сэрцы азвалася пякучаю ранай трывога, Раман хацеў, каб цягнік вёз яго некуды ўвесь час, ня спыняючыся, міма гораду, далей ад усяго. Але цягнік, абагнаўшы горад, яшчэ з большай, здавалася, пасьпешнасьцяй, з грукатам, з лязгам, з імпэтам і кіраваўся на вакзал, што ўжо чакаў яго і гатовы быў прыняць у свае абдымкі.

*(Далей будзе)*

